Published by Byelorussian Charitable Educational Fund, Inc.

Gainesville, Florida. U.S.A.



## ВІЛЬГЭЛЬМ фон ГУМБОЛЬДТ

Карль Вільгэльм Барон фон Гумбольдт (1767-1835), нямецкі філёзаф і гаспадарсьцьвены муж, брат Аляксандра фон Гумбольдта, радзіўся ў Потсдаме. Ягоная адукацыя зь дзіцячых гадоў даручанаю была прыватным карэпэтытарам. Тры вышэйшыя школы — Бэрлінскі ўнівэрсытэт, у Готтынгэн і Ене, дзе, пад даглядам выдатных прасьветнікаў таго часу — Гумбольдт студыюе грэцкую мову, філязофію, натуральнае права і палітычную эканоміку.

Ягоная дыпляматычная служба на працягу 34 гадоў стаецца нагодаю далейшага ягонага навуковага пранікaньня і паглыбляньня тэмаў пастаўленых перад сабою. Тут ён знаходзіць магчымасьць угляду ў сфэру філялёгічных навукаў і параўнаньня моваў, з чаго ён стаецца найболей ведамым. Ён хоча пранікнуць у сутнасьць самое мовы чалавека. У 1821 годзе ён публікуе Prüfung der Untersuchungen über die Urbewohner Hispaniens Vermittelst der Vaskischen Sprache (Довад досьледаў адносна найболей раньніх пасяленцаў Гішпаніі пры помачы мовы Баскаў). Ягоная найболей ведамая праца Über die Kawisprache auf der Insel Jawa, адносіцца да мовы Кава на абтоцы Ява, якая была апублікованаю ў трох томах у год пасьля сьмерці аўтара.

«Унутраная хворма мовы» (Innere Sprachform), якая тут падаецца, зьяўляецца адзінаццатым разьдзелам (параграфам) і займаецца аналізам супрацы ўсіх сілаў інтэлекту ў працэсе гаварэньня, самавыражэньня. «І нямашака ніякае гэтакае сілы душы, якая-б ня прыймала тут удзелу. Нічога ўнутры чалавека не знаходзіцца гэтак глыбокім, гэтак скрысталізаваным, гэтак усёагартваючым, што ня прыймала-б удзелу ў мове або ня было-б пазнавальным у ёй».

Вільгэльм фон Гумбольдт быў адным зь першых філялёгаў, каторы ўтрымліваў пагляд, што мова мусіць быць уважанаю, як беспасрэднае адлюстраваньне культуры тых, каторыя ўжываюць яе. Ёсьць гэта перасьцерагаючае нас сьцьверджаньне ў прысутнасьці нашага сягоньня змаганьня на жыцьцё і сьмерць за справу роднае мовы.

Перакладчык

Gainesville, 1989

Я думаю, што веданьне старажытнае грэцкае думкі і жыцьця, гэтак як і мастацтва, у якім грэкі выражалі сваю думку і сэнтымэнт, ёсьць самым галоўным для высокае культуры. Чалавек можа ведаць усё іншае, але бяз гэтага веданьня ён зьяўляецца ігнарантам найлепшых інтэлектуальных і маральных асягненьняў ягонае ўласнае расы.

**Чарльс Эліёт Нортон** (1827-1908).
Амэрыканскі вучоны і біяграф, рэдактар
і прафэсар гісторыі і мастацтва.
(Зь лісту да Ф. А. Туппэр'а 1885).

Вільгэльм фон Гумбольдт Пераклад зь нямецкага

## УНУТРАНАЯ ХВОРМА МОВЫ

Усе выгады поўныя мастацкае прыгожасьці і багацьця гукавых хвормаў, хоць і спалучаныя з найболей жывою артыкуляцыяю, астаюцца бязраднымі, каб абясьпечыць інтэлект [1]) годнымі і ўзнанымі мовамі, калі зіхацістая яснасьць ідэяў не пранікне мовы сваім сьвятлом і цеплынёю. Гэтая частка мовы, якая зьяўляецца найболей унутранаю і чыста інтэлектуальнаю, яна творыць сабою фактычную мову. Гэта ёсьць той працэс, які дыктуе напрамак разьвіцьця мовы на дарозе фонэтычнае хвормы, і тут супачывае прычына, чаму мова стаецца здольнаю выявіць выражэньне кажнае рэчы, — як вынік прагрэсыўных розумаагортваючых натугаў, — імкнучыся даручыць яе найболей вялікім розумам надыходзячых пакаленьняў. Гэтая якасьць, ссуродненая з моваю, залежыць ад усузгоднenасьці і супрацы выяўленых у ёй усіх правоў разам з прынцыпамі назіраньня, думаньня і сэнсацыі наагул. Інтэлектуальная здольнасьць, аднак-жа, знаходзіць сваё існававаньне выключна ў сваей дзейнасьці. Яна бо ёсьць сілаю, якая выбухае ўсёю сваею магутнасьцю ўздоўж выразна абазначанага напрамку. Затым, успомнутыя правы не зьяўляюцца нічым іншым, як толькі шляхамі, якімі інтэлектуальная актыўнасьць парушаецца ў часе працэсу моўнае прадуктыўнасьці, або, ужываючы іншую аналёгію, — нічым іншым, як хвормамі, у якіх інтэлектуальная дзейнасьць выціскае гук. І нямашака ніякае гэтакае сілы душы, якая-б ня прыймала тут удзелу. Нічога ўнутры чалавека не знаходзіцца гэтак глыбокім, гэтак скрысталізаваным, гэтак усёагортваючым, што ня прыймала-б удзелу ў мове або ня было-б пазнавальным у ёй. Інтэлектуальныя выгады мовы, затым, супачываюць выключна на добраўладжанай і добраўпарадкаванай, саліднай і яснай інтэлектуальнай арганізацыі людзей у дадзенай эпосе іхнае будовы або перабудовы, і зьяўляюцца вобразам яе, і запраўды, яе беспасрэдным атожылкам.

Можа здавацца, быццам усе мовы мусілі-б быць, у сваім інтэлектуальным працэсе, аднолькавымі. Бо фонэтычная магчымасьць замыкае ў сабе бязьмежную, непрадбачаную рознавобразнасьць. Затым, што мэнтальна і фізычна індывідуальнасьць узьнікае з гэтак вялікае колькасьці розных прычынаў, магчымасьць градуацыі яе ня можа быць устаноўленаю. Аднак-жа тое, што супачывае выключна на нечыяй уласнай інтэлектуальна-лінгвістычнай дзейнасьці, — як чыніць гэта інтэлектуальная частка мовы, — выглядае, што яно мусіла-б быць тым самым для ўсіх людзей у вабліччу аднолькавых мэтаў і сродкаў. І ўсё-ж, выяўляецца, што і ў мове, у выніку лічных прычынаў, выступае вялікая неаднолькавасьць. З аднаго боку, яна зьяўляецца рэзультатам лічнае градуацыі, у якой моватворачая сіла зьяўляецца болей або меней эфэктыўнаю, гэтак, як і наагул, з увагі на ўзаемааддзейваючыя чыннасьці ў ёй выступаючыя. З другога боку, тут выступаюць сілы, якіх дзеяньні ня могуць быць меранымі розумам ані гэтаксама толькі ідэямі. Фантазыя і пачуцьцё выклікаюць індывідуальныя постаці, у якіх індывідуальны характар нацыі выступае наперад, і, як гэта і бывае ўва ўсіх індывідуальных справах, рознавобразнасьць мастацтва, дзе тая самая рэч можа быць выражана бязьмерна рознаяка, вядзе ў бясконцасьць.

Але, нават і ў чыста ідэальнай частцы, якая ўзалежніваецца ад мэнтальнае сузгоднасьці, знаходзяцца розьніцы, якія бадай-што заўсёды ўзьнікаюць зь няправільных або недастатковых камбінацыяў. Каб пераканацца ў гэтым, хопіць чалавеку затрымацца ў ягоных фактычных граматычных правох. Розныя хвормы, напрыклад, — якія, паводле вымаганьня працэсу гавораньня, мусяць прадназначацца асобна пры пабудове дзеяслова, — павінны былі б выбірацца аднолькавым спосабам ува ўсіх мовах, паколькі яны могуць быць знойдзенымі на дарозе простых правілаў. Калі чалавек у дадзеным выпадку, параўнае тэкст санскрыту з грэцкім, удырваючым ёсьць, што ў першым, паняцьце ладу ня толькі астаецца відавочна неразьвітым, але ў выпрацаваньні мовы, само нават ня чуецца праўдзівым і ня розьніцца выразна што да часу. З гэтае прычыны яно неадпаведна ўсуаднеслася што да часу, і не разьвілося поўнасьцю што да часу граматычнага [2]). Падобнае знаходзім у ваднясеньні да інфінітыву, які, у дадатку, упаў у дзялянку дзеяслова, у выніку чаго, ягоная дзеяслоўная натура зусім зьвіхнутая. Пры ўсей апраўданай прыхільнасьці для санскрыту, справядлівым ёсьць, і гэта трэба прызнаць, што ў дадзеным выпадку ён астаецца з-заду мовы, узьніклае пазьней. Натура мовы, між іншым, спрыяе недакладнасьцям гэтага мастацтва ў тым часе, калі яна сама, дзеля істотнага асягненьня свае мэты, няшкоднаю ўмее яе ўчыніць. У выпадку немагчымасьці прыгожа і коратка выразіцца, яна дазваляе адной хворме заступіць [3]) іншую або, калі ёй выгадна, яна кліча на помач парафразу. З гэтае прычыны падобныя выпадкі насычаны памылковымі недакладнасьцямі, і якраз у выпадках неабходнасьці чыстае інтэлектуальнае часткі мовы ці выказваньня. Я ўжо вышэй адцеміў, што часамі віна гэтага зьявішча можа быць аднесена да фонэтычнае хвормы, якая, калі ўжо прызвычаіцца да пэўных структураў, памылкова вядзе інтэлект у напрамку канцэптаў, якія вымагаюць новых тыпаў структур у сфэры ейнае ўсталенае структуральнае працэдуры. Але гэта, аднак, не заўсёды здараецца. Тое, што я толькі што сьцьвердзіў у выпадку тасаваньня ладу і інфінітыву ў санскрыце, ня можа быць вытлумачана ані ў якім выпадку на дарозе фонэтычнае хвормы. Што найменей я ня быў у стане выкрыць нечага падобнага. Ейнае багацьце камунікацыі зьяўляецца дастатковым, каб праявіць патрэбнае і належнае выражэньне. Прычына тут унутраная. Ідэальная пабудова дзеяслова, — ягоная ўнутраная праява, дастатковая ў сваіх розных частках словатворчага арганізму, — не разьвілася дастаткова ясна перад працэсам хвармацыі нацыянальнага інтэлекту. Гэты недахоп тым болей задзіўляючым ёсьць тады, калі ніякая здольнасьць мовы не рэпрэзэнтуе праўдзівае натуры дзеяслова гэтак акуратна і вобразна, як санскрыт. Бо ў ім знаходзіцца сынтэза існасьці і ідэі. Санскрыт ведае толькі дзеясловы чыну, які заўсёды сугэруе дэфінітыўныя індывідуальныя магчымасьці. Корані словаў ня могуць быць уважанымі, як словы, ані нават, як дзеясловыя канцэпты. Прычына гэтакага недастатковага разьвіцьця або ня-

правільнага ўняцьця моўнага канцэпту, у меншай ці большай меры, можа быць спасьцярожнаю ў прыкладзе фонэтычным або ў унутраным сузіраньні магчымасьцяў мовы. Затым памылка заўсёды знаходзіцца ў недастатковай сіле здольнасьці праяўляньня мовы. Куля, запушчаная сілаю, адказваючай задачы, ня можа быць адхіленаю ад праектаванага напрамку супроцьлежнымі перашкодамі, гэтак і мысьлёвы матэрыял, адпаведна ўняты і паддадзены апрацоўцы з належнаю інтэнсыўнасьцю, выразіцца ў аднолькавай пэрфэкцыі сваімі прыгожымі ўзнагародамі, і гэта станецца толькі пры наяўнасьці вострага высартаваньня на адпаведныя часткі.

Так як абазначэньне канцэптаў і абазначэньне правоў сынтаксізу выступае, як адпаведны пункт, які мае брацца пад увагу ў выпадку фонэтычным, падобна і аднолькава важнымі яны зьяўляюцца ў ваднясеньні да ўнутранага інтэлектуальнага элемэнту мовы. З абодвума абазначэньнямі выступае пытаньне, ці падобнае выражэньне адносіцца выключна да індывідуальных аб'ектаў або, ці ўзаемадачыненьні маюць быць рэпрэзэнтаванымі тады, калі будучы затасаванымі да большага ліку індывідуальных аб'ектаў, грамадзяць гэтыя аб'екты разам пад агульны канцэпт, гэтак, што фактычна тры выступаюць выпадкі, якія маюць быць распазнанымі. Гэтае абазначэньне канцэптаў, да якога першыя два належаць, тварылі сабою слоўную структуру ў выпадку фонэтычнага прыкладу. Затым, падобны выпадак унутрана творыць сабою ідэалягічную структуру, бо кажны канцэпт мусіць зьмяшчаць у сабе свае ўласныя характэрныя элемэнты або тыя іншыя, зь якімі ён прыходзіць у кантакт, тады, як змысл артыкуляцыі знаходзіць абазначэньне гукаў. Гэта ёсьць той выпадак, калі вонкавыя, цялесныя аб'екты могуць быць звычайна ўспрынятыя змысламі. І нават для іх слова не зьяўляецца роўнаважнікам аб'екту, які лунае перад змысламі, але барждджэй канцэптам у хвіліне словаўтварэньня. І гэта ёсьць тою выдатнаю крыніцаю рознароднасьці выражэньняў для названых аб'ектаў; калі ў санскрыце, напрыклад, слон часамі называецца "падвойным выпівачам", а іншым разам "двухзубым" і зноў "дух з адною рукою" — тут, нават



тады, калі выступае адзін і той самы аб'ект, абазначаецца ён цэлым радам розных канцэптаў. Бо мова ніколі не рэпрэзэнтуе гэтыя аб'екты, але заўсёды канцэпты, незалежна інтэлектам створаныя ў працэсе прадукцыі гаварэньня. І якраз пра гэтую прадукцыю, як далёка яна ўнутранаю ёсьць, ідзе тут гутарка, у тым меркаваньні, што, калі гэтак можна сказаць, яна выпярэджвае сэнс артыкуляцыі. Ведама, гэтакае распадзяленьне можа быць затасаваным толькі ў лінгвістычнай аналізе і не ўважанае як існуючае ў натуры.

Зь іншага пункту гледжаньня, два апошнія з трох вышэйпададзеных выпадкаў, знаходзяцца блізка адзін да аднаго. Наагул, узаемадачыненьні маюць быць адцемленымі ў ваднясеньні да паасобных аб'ектаў і граматычных інфлексыяў словаў, якія супачываюць у бальшыні выпадкаў на агульных хвормах пэрсэпцыі і на лягічным упарадкаваньні канцэптаў. Згэтуль, у гэтых двух выпадках, знаходзіць сабе месца спасьцярожная сыстэма, зь якою можа быць параўнана сыстэма, узьніклая з каждае апрычонае мовы; і калі гэтак рэч маецца, тады ўвыпукляюцца два пункты: трапнае высартаваньне вызначанага матэрыялу і ідэальнае абазначэньне, выбранае для кажнага падобнага канцэпту. Бо тут дакладна выступае тое, што было ўжо вылажана вышэй. Аднак-жа, калі тут заўсёды маецца на ўвазе стараньне адносна абазначэньня непачуцьцёвых канцэптаў, і запраўды, часта простых усуадношаньняў, тады канцэпт для мовы мусіць часта, калі не заўсёды, быць браным вобразна; і тут у камбінацыі простых канцэптаў выступаюць фактычныя глыбіні моўнага змыслу, які суцэльна пануе над моваю ад часу яе першаасноваў. Чалавек або ягоны займеньнік, і прасторныя ўзаемадачыненьні гуляюць у стабілізацыі канцэптаў найболей важную ролю; і часта можа быць даведзеным, як канцэпты ўсуадношваюцца адзін да аднаго, і як, у нават простай пэрцэпцыі, яны лучацца адзін з адным. У гэтых усуадношваньнях выяўляецца на чым мова, як гэткая, найболей своеасабліва і болей ці меней інстынктоўна ўстабілізоўваецца інтэлектуальна. Для індывідуальных рознасьцяў павінна быць тут найменей пакінута прасторы, і розьніца паміж мовамі ў гэтым да-

чыненьні павінна супачываць проста на той рэчаіснасьці, што часткава жыватворчы ўжытак з гэтага ўчынена, часткава з гэтае глыбіні ўзьнікла абазначэньне, яснае і са зьвярненьнем увагі на даступнасьць для сьведамасьці.

Глыбей праз успрыймальнае сузіраньне, фантазыя, пачуцьцё, і, праз узаемадзеяньне гэтых, у характар пранікае абазначэньне паасобных унутраных і вонкавых аб'ектаў, бо тут натура дзейнічае з чалавекам, які, запраўды, часткава лучыць матэрыяльны элемэнт зь ягоным здольным да хвармаваньня інтэлектам. Затым, на гэтым абшары пераважна зіяе нацыянальная своеасаблівасьць. Бо чалавек падыходзіць са зразуменьнем бліжэй да вонкавае натуры і самастойна разьвівае свае ўнутраныя ўспрыймы паводля індывідуальнага спосабу, наколькі ягоныя інтэлектуальныя сілы дазваляюць пры рознародных абставінах і паступовасьці; і гэта адбіваецца ў моваўтварэньні, як далёка ўнутраныя канцэпты выступаюць на пераймы тварэньня слова. Вялікая лінія мяжы тут гэтаксама знаходзіцца, і яна залежыць ад таго, ці народ у сваей мове болей акцэнтуе аб'ектыўную рэчаіснасьць ці болей суб'ектыўную ўнутранасьць. І хоць гэтае заўсёды перш паступова наперадкрочучае хвармаваньне выразна разьвіваецца, ягоны зародак ужо знаходзіцца ў неспасьцярожным узаемапавязаньні першапачаткавае структуры. Тут гэтаксама выціскае свой штамп гук. Бо чым болей яснасьці і выразнасьці вымагае лінгвістычны змысл у прэзэнтацыі інтэлектуальных аб'ектаў, і чым болей чыста і нематэрыяльна апісаная акрэсьленасьць дамагаецца для інтэлектуальных канцэптаў, тым болей востра выступаюць артыкуляваныя гукі, бо на дне душы тое, што мы ў думцы распадзяляем, зьяўляецца непадзельна адным, і тым болей звонка выступаюць склады, хвармуючы сабою словы. Гэтая адрозьненасьць паміж ясьнейшаю і мацнейшаю аб'ектыўнасьцю і глыбей ухвармаванаю суб'ектыўнасьцю стаецца ўдырваючаю пасьля параўнаньня грэцкае і нямецкае мовы. Чалавек зараз-жа спасьцерагае нацыянальны ўплыў сваеасаблівасьцяў ў мове, у двух спосабах: у пабудове індывідуальных канцэптаў і ў адносна розным багацьці мовы ў канцэптах дадзенага тыпу. У некаторых выпадках зараз-жа выступае спасьцярожна фантазыя і пачуцьцё, ведзеныя са свомым для сябе назіраньнем, і зноў-жа — вышуканы розум, а далей — інтэлект з харобрым павязаньнем чыну. Згэтуль, аднолькавы калярыт, які тасуецца ў выражэньні найболей рознародных аб'ектаў, носіць знамя ўспрыняцьця натуры народам. Ня меней выразным зьяўляецца перавага ў выражэньнях, якія належаць да паасобнага інтэлектуальнага напрамку. Гэтакае палажэньне рэчаў спасьцярожным стаецца, для прыкладу, у санскрыце ў пэўнай колькасьці рэлігійна-філязафічных моваў, з чым, магчыма, ніякая іншая мова ня можа быць параўнанаю. Трэба тут яшчэ дадаць, што гэтыя канцэпты ў большай сваёй частцы пабудаванымі зьяўляюцца ў магчыма найбольшай голасьці, гэтак, што глыбока абстракцыйны сэнс гэтае нацыі згэтуль яшчэ болей выразна выступае. З гэтае прычыны мова характэрызуецца свомымі для сябе сьлядамі, якія могуць быць знойдзенымі ў цэлай літаратуры і інтэлектуальнай дзейнасьці індыйскае старажытнасьці, і запраўды — у вонкавых праявах жыцьця і маральнасьці. Мова, літаратура і духовая канстытуцыя [чалавека] аднагалосна сьведчаць, што ўнутрана кірунак быў прысьвечаны першым прычынам і апошняй мэце людзкага існаваньня, тады як вонкавы быў станам, якому існаваньне выключна прысьвячалася, інакш кажучы, разважаньне і імкненьне ў напрамку боскасьці і сьвятарства; гэтакімі былі пануючыя нацыянальныя характэрыстычныя рысы. Пабочныя асаблівасьці ў гэтых трох выпадках [у мове, літаратуры і разважаньні] былі мамэнтам спэкуляцыі адносна мэты, якая пагражае абярнуцца ў нічогасьць і лятуценьне стацца здольным у перакрочаньні людзкіх абмежаваньняў на дарозе безрассудна адважных практыкаваньняў.

Было-б гэта аднак аднастароньнім уяўленьнем, думаць, што нацыянальная сваеасаблівасьць інтэлекту і характару праяўляецца толькі ў канцэптуальнай структуры. Яна гэтаксама мае вялікі ўплыў на парадак словаў і зараз-жа распазнавальнаю стаецца. І зразумелым гэтаксама ёсьць, як натура сільней або слабей, зырка або цьмяна, ажыўлена ці павольна пылае полымем, у якім выражэньні ўсяе думкі і выцякаючага патоку пачуцьця пераважна

гэтак выліваецца, што ягоная своеасаблівая натура тутака відавочнаю стаецца. У гэтым дачыненьні санскрыт і грэцкая мова вядуць да цікавых і навукова ўзбагачваючых параўнаньняў. Своеасаблівасьці ў гэтай частцы мовы адбіваюцца толькі ў паасобных хвормах і ў акрэсьленых правох, і аналіз мовы стаецца труднаю справаю. З другога боку, тып сынтаксічнае пабудовы цэлага раду ідэяў вяжацца дакладна з тым, аб чым мы ўжо гаварылі вышэй, гэта значыць, з пабудоваю граматычных хвормаў. Бо беднасьць і неакрэсьленасьць хвормаў забараняе думцы ў шырэйшым абсягу агарнуць гаворку і змушае здаволіцца простым пэрыёдычным сказам, які знаходзіць некалькі супачынковых пунктаў. Нават там, дзе багацьце прыгожа ўрадкаваных і востра адцемленых граматычных хвормаў наяўнымі зьяўляюцца, унутраны, жывы імпульс у напрамку даўжэйшага, болей багатага ў думку, і з большым подыхам натхненьня, у пабудове сказу, мае быць уключаны, калі словапарадак мае расьцьвісьці да стану дасканаласьці.

Гэты імпульс, у эпосе, у якой санскрыт здабыў ведамую нам сягоньня сваю пісаную хворму, мусіў быць меней у сваей энэргіі эфэктоўным, бо інакш, падобна як гэні грэцкае мовы асягнуў свой пасьпех, дык і ён, трэба здадумвацца, да пэўнае меры меў-бы створанымі да гэтага і тут магчымасьці, якія цяперака рэдка знаходзім у сваім словапарадку і чыне.

Шматлікае ў пары ўзьнікненьня пэрыяду і словапарадку ня дасца высьледзіць на падставе права, але ўзалежніваецца каждаразова ад вуснага або пісанага пераказу. Затым мова мае для сябе заслугу ў прысваеньні сабе свабоды і безабмежаванасьці сродкаў для разнарадных выражэньняў, нават, калі часта надарваецца ёй толькі магчымасьць тварыць іх. Бяз зьначаньня мовы ў ейным гуку і ў ейнай морфалёгіі і правох, час, успамагаючы на дарозе разьвіцьця ідэяў, узмацняе сілу думаньня і болей пранікаючую пэрцэпцыю і часта ўводзіць новыя элемэнты, якія дагэтуль былі няведамымі ёй. У падобным выпадку іншае значэньне ўводзіцца ў тое самае абыймо; у гэтым самым выражэньні, выступае нешта новае, і, паводля гэтага самага прынцыпу сузлучэньняў, зьяртаецца ўвага на розна градуацыйны рух наперад ідэяў. Тут знаходзіцца трывалкі прадукт літаратуры народу. Папераджальна, аднак, гэты прадукт узьнікае пераважна праз паэзыю і філязофію. Разьвіцьцё рэшты навукаў заспасабляе мову пераважна адпаведным матэрыялам, або выдзяляе і вызначае дакладна што яшчэ астаецца. Паэзыя і філязофія, аднак-жа, датыкаюцца чалавека ўнутрана зусім у іншым сэнсе, і гэтым замацоўваючы ўзьдзейваюць на мову, якая зьяўляецца гэтак непадзельнаю часткаю чалавека. Гэтым мовы, у якіх дух паэзыі і філязофіі што найменей пануе на працягу аднае эпохі, зьяўляюцца найболей здольнымі ў сваей пэрфэкцыі ў курсе сваяго разьвіцьця; і гэта падвойна стаецца правільным, калі гэтае панаваньне выток свой бярэ са сваіх унутраных нахілаў, чымся з пераймапьня чужога. Ува ўсіх лінгвістычных супольнасьцях, як і сэміцкай і санскрыцкай, дух паэзыі гэтак жывым астаецца, што ранейшая мова супольнасьці ў пазьнейшых часох зноў нанава зь сіламоцаю ўздымаецца [4]). Ці багацьце пачуцьцёвага ўспрыйманьня ў мове ў гэтым дачыненьні зьяўляецца здольным, каб павялічыцца, цяжка было-б сказаць. Але што інтэлектуальныя канцэпцыі і з унутранага ўспрыйма створаныя імі ўспомнутыя гукі ў прагрэсыўным ужыцьці пераказваюць глыбокі, эмацыянальны зьмест, паказвае дасьведчаньне ўва ўсіх мовах, якія разьвіваліся на працягу стагодзьдзяў. Высока інтэлігэнтныя пісьменьнікі пераказваюць самымі словамі гэты паглыблены зьмест, і кажны ажыўлена ўспрыймальны народ убірае яго ў сваю душу і разьвівае далей. І наадварот, мэтафары, якія ў старажытных часох цудоўна ўзьдзейвалі на ўяўленьні юнацкіх розумаў — як сьляды моваў, дайшоўшых да нашых дзён сьведчаць — гэтак знасіліся ў штодзенным ужыцьці, што насілу ці яшчэ адчувацімуцца далей. У гэтым адначасным уздыме і заняпадзе, аддалі мовы належную паслугу наперадкрочучаму разьвіцьцю, якое зьяўляецца свомым для іх у вялікай інтэлектуальнай эканоміцы людзкае расы.

Гэйнсвільл, 14 лютага 1988 г.

[1]) Інтэльлект (інтэлект) (з л. intellectus) агортваньне, успрыйманьне, разуменьне, ад intellegere, intelligere успрыймаць, разумець; inter, між, паміж, сярод і legere, зьбіраць, грамадзіць, выбіраць.

**Здольнасьць** людзкае душы або розуму, якая ўспрыймае або агортвае ідэі, пераказаныя ёй пры помачы пачуцьцяў. (Webster) Я. П.

[2]) Бопп [Франц, 1791-1867, нямецкі філялёг, ведамы, як найбольшы навуковец ў дзялянцы моваў, радзіўся ў Маінцу, студыяваў у Ашаффэнбургу, Парыжу і Лёндане. Ягоная **Кампэратыўная Граматыка** з сям'і Інда-Гэрманскіх моваў унесла рэвалюцыйны пачатак у прадмет мовы] першы спасьцярог (Jahrbücher für wissenschaftliche Kritik. 1834. II. Band. S. 465), што звычайнае ўжываньне сілы здольнасьці заключаецца ў тым, што ўсе катэгарычныя цьверджаньні выявіліся асобна і незалежна ад сябе і часу узьнікненьня. Правільнасьць гэтага сьцьвярджаньня падмацоўваецца цэлым радам прыкладаў, асабліва ў маральных выказваньнях Гітопадэзы. Калі чалавек, аднак, пры бліжэйшым углядзе ў справу, якая на першы позарк кідаецца ў вочы і возьме пад увагу ўспомнуты час, тады спасьцеражэ ён, што ўсё гэта ў свомым для сябе сэнсе, у дадзеным выпадку, мусіць быць толькі апавешчаным, як эльліптычнае. Замест сказаць: Мудрэц паступае ня інакш, кажацца: Мудрэц будзе гэтак паступаць і разумець прыведзеныя словы: у кажным выпадку і ў кажным часе. Я не хацеў-бы дзеля ўжываньня гэтае сілы здольнасьці ўводзіць якую-небудзь схільнасьць да неабходнасьці. Наадварот, яна выдаецца мне тут чыстаю і простаю з усіх канкрэтных паняцьцяў, умельстваў, ахвотнасьцяў, абавязкасьцяў і г. д., каб ужываць розны ўмоўны лад. Асаблівасьць гэтага ўжываньня ляжыць у ўведзенай эльліпсе, і адно паколькі ў так названай сіле здольнасьці, якая якраз эльліпсаю пераважна будзе матываваацца абвесным ладам. Затым, немагчыма запярэчыць, што ўжываньне ўмоўнага ладу, быццам на дарозе адхіленьня ўсіх іншых магчымасьцяў, і дзейнічае тут мацней, чымся проста выражаная думка пры ўжыцьці абвеснага ладу. Я ўспамінаю пра гэта з падкрэсьленьнем, бо, хоць і ня ёсьць гэта няважным, аднак чысты і звычайны сэнс граматычных хвормаў, як далёка ўтрымліванымі астаюцца яны і перасьцераганымі, асабліва, калі чалавек да супроцьлежнага ня будзе змушаным.

[3]) Пра гэтае зьмяшаньне аднае граматычнае хвормы зь іншаю я прасторна гавару ў маей працы адносна ўзьнікаеньня граматычных хвормаў. Abhandl. d. Akad. d. Wissensch. zu Berl. 1822. 1823. Hist. — philol. Classe. S. 404-407.



[4]) Гэты працэс асабліва відавочным стаецца ў беларускай мове пры наяўнасьці пераэжываньняў палітычнага заняпаду і культурнага Рэнэсансу. Я. П.

Калі Вы цікавіцеся старажытнаю грэцкаю філязофіяю ў перакладзе на беларускую мову, тады пішэце на адрас:

**Byelorussian Charitable Educational Fund, Inc.**
1716 N.E. 7th Terrace
Gainesville, Florida 32609
U.S.A.